Выдаецца з 16 студзеня 1998 г.
Галоўны рэдактар Ігар Германчук
Заснавальнік Павел Жук
Выдавец — рэдакцыя газеты НАВІНЫ
Наклад 12 790.
Адрас для карэспандэнцыі:
220088, г.Мінск,вул. Іванаўская, 56.
Тэл/факс: 236-24-41

# НАВІНЫ



Серада, 11 лютага 1998 г. | № 12 | Кошт свабодны

## СВАБОДА

Забаронена 24 лістапада 1997 г.

*80 гадоў БНР*

## Свята Незалежнасці

**Апазіцыйныя сілы Беларусі распачалі падрыхтоўку да святкавання 80-годдзя з дня абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі.**

Ужо створаны аргкамітэт у складзе шасцідзесяці вядомых палітыкаў і дзеячаў культуры. Многія з іх хаця і не з'яўляюцца стопрацэнтовымі палітычнымі аднадумцамі БНФ, які выконвае ролю арганізатара святкаванняў, але падзяляюць прынцыпы дзяржаўнасці Беларусі і неабходнасць яе дэмакратычнага развіцця. Дзень 25 сакавіка 1918 года, калі беларусы абвясцілі аб утварэнні сваёй дзяржавы, павінен адзначацца як усенароднае свята — лічаць сябры аргкамітэта. У заяўцы, якую яны ўжо падалі ў Мінгарвыканкам, прапанавана цэлая праграма святкаванняў: шэсце (22 сакавіка) па праспекце Скарыны, мітынг ля тэатра Я.Купалы, дзе адбываўся з'езд, што абвесціў БНР, і, нарэшце, святочны канцэрт (25 сакавіка) на адной з лепшых канцэртных пляцовак горада.

**Алесь ПАЎЛОВІЧ**

## Эстафета па пасольствах

**Актывісты Маладога Фронту правядуць 14 лютага ў Мінску маладзёжнае шэсце і мітынг, прымеркаваныя да Алімпійскіх гульняў у Нагана.**

Гарадскія ўлады далі дазвол на гэтае мерапрыемства. Акцыя, якая прыпадае на дзень св.Валянціна, пачнецца ў 16:30 на плошчы Я.Коласа, адкуль маладыя маніфестанты па вуліцы Чырвонай накіруюцца да Опернага тэатра. Там пройдзе кароткі мітынг, а таксама выступяць спартовыя калектывы, барды і рок-выканаўцы.

Дзесяць групаў маладафронтаўцаў паралельна наведаюць некалькі амбасадаў краінаў Еўропы, ЗША і Японіі і ўручаць дыпламатам віншаванні з нагоды поспехаў іхніх спартоўцаў у Нагана. Паход па амбасадах будзе мець выгляд своеасаблівага спаборніцтва — і група, якая першай прыйдзе на плошчу перад Оперным, атрымае «алімпійскія» ўзнагароды.

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**

## «Хочам рускіх!»

*Патрабавалі польскія гандляры, заблакіраваўшы памежны пераезд у Кузніцы-Беластоцкай*

У аўторак раніцай закончылася блакада беластоцкімі гандлярамі памежнага пераезду Кузніца, што на мяжы з Беларуссю. Гандляры патрабавалі, каб польскія ўлады зрабілі таннейшымі візы і ваўчары для наведвання Польшчы беларусамі і расіянамі.

Акцыя пратэсту працягвалася каля сутак. Удзельнікі раз'ехаліся па дамах толькі пасля таго, як да іх у Кузніцу прыехала беластоцкі ваявода Крыстына Лукашук. Яна паабяцала, што неадкладна зоймецца візавым пытаннем. На пятніцу ўдзельнікі акцыі былі запрошаныя ў Варшаву, каб дакладна пазнаёміць членаў урада са сваімі праблемамі. Магчыма таксама, што польскі ўрад у канцы тыдня абмяркуе варыянт продажу новых польскіх візаў на памежных пераездах.

Вядома, што паўночна–ўсходняя частка Польшчы гаспадарча развіта слабей за іншыя рэгіёны. Памежны гандаль, які расквітнеў за апошнія гады, дазволіў зменшыць сацыяльную напружанасць і палепшыць узровень жыцця жыхароў, у прыватнасці Беластоцкага ваяводства. Рэзкае скарачэнне гандлёвага абмену з Беларуссю можа зменшыць іхнія заробкі, а таксама выклікаць некаторы рост беспрацоўя.

Гэтая ж праблема датычыцца і тысячаў гродзенцаў, якія займаюцца памежным гандлем. Прадпрымальнікі горада вырашылі звярнуцца да мясцовых уладаў з просьбай , каб тыя хадайнічалі перад польскім бокам адносна таго, каб былі палегчаныя ўмовы перасячэння беларуска-польскай мяжы для жыхароў памежных раёнаў.

**Сяргей АСТРАЎЦОЎ**

## Польшча ўзмоцніць візавы рэжым

Польскі міністр замежных справаў Браніслаў Герэмэк паведаміў, што ўсім замежным грамадзянам, якія едуць у Польшчу з усходу, уключаючы расіянаў, украінцаў і беларусаў, у хуткім часе (магчыма ўжо да канца 1998 г.) спатрэбіцца звяртацца за атрыманнем візы, падобнай тым, якія патрабуюцца для ўезду ў краіны Еўрасаюза. Па словах міністра, увядзенне візавага рэжыму з'яўляецца адной з умоваў уступлення Польшчы ў ЕС. Мяжа Польшчы аднчасова стане і мяжою ЕС, а таму неабходна выкананне тых жа правілаў пашпартна-візавага кантролю, якія прымяняюцца на іншых граніцах Еўрасаюза. У наступным нумары нашай газеты будзе апублікаваны падрабязны матэрыял па гэтай праблеме.

**Б.П.**

### Справа «мінскай тройкі» ў Еўрапарламенце

Лёс Аляксея Шыдлоўскага, Вадзіма Лабковіча і Вадзіма Кабанчука, якія ўжо амаль 6 месяцаў знаходзяцца за кратамі, прыцягвае ўсё большую ўвагу міжнароднай грамадскасці.

У канцы мінулага тыдня прадстаўніцтва Хартыі-97 у Брусэлі паведаміла: *«5 лютага 1998 года група дэпутатаў ад фракцыі «зялёных» Еўрапарламента вынесла праект рэзалюцыі, які патрабуе ад беларускіх уладаў вызвалення «мінскай тройкі» — Лабковіча, Шыдлоўскага, Кабанчука».*

Як вядома, беларускі рэжым далёка не заўсёды прыслухоўваецца да голасу міжнароднай грамадскасці. Аднак хацелася б верыць, што заступніцтва еўрапейскіх палітыкаў дапаможа актывістам Маладога Фронту.

*БДГ*

«СЕНСАЦЫЯ»

## Шантаж

*«Беларусь не мае ніякай магчымасці стварыць ядзерную зброю, гэта звычайны шантаж»,* — так пракаментаваў Станіслаў Шушкевіч *«сенсацыйнае паведамленне»* аб тым, нібыта наша краіна валодае ядзернымі матэрыяламі, якія можна выкарыстаць у ваенных мэтах.

Гэтая «сенсацыя» прагучала ў тэлевізійнай праграме «Рэзананс», якая агучвае афіцыйную пазіцыю беларускага кіраўніцтва. Тэлекаментатар заявіў, што Беларусь мае дзве тоны збраевага плутонію і высокаабагачанага ўрану, што дазваляе ёй *«пры жаданні»* прэтэндаваць на статус «каляядзернай» дзяржавы.

Па словах былога кіраўніка краіны Станіслава Шушкевіча, у Беларусі сапраўды засталася пэўная колькасць ядзерных рэчываў, якія выкарыстоўвалі ў навуковых даследаваннях, але з гэтых адходаў немагчыма зрабіць ядзерную зброю. На думку Шушкевіча, заявы аб тым, нібыта ў нас ёсць збраевы плутоній, з'яўляюцца *«поўнай лухтой»*.

Словы Лукашэнкі аб тым, што навукова-тэхнічны комплекс ядзернага цэнтра «Сосны» будзе выкарыстоўвацца па яго непасрэдным прызначэнні і ён ужо даў адпаведнае распараджэнне Савету бяспекі, Станіслаў Шушкевіч пракаментаваў наступным чынам: *«Відаць, Лукашэнку хочацца быць яшчэ і галоўным ядзершчыкам. Калі раптам мы пачуем, што кансультантам у Курчатава быў наш прэзідэнт, у мяне гэта не выкліча ніякага здзіўлення. Гэта справа псіхіятраў».*

На думку Шушкевіча, падобнымі заявамі (пра ядзерныя магчымасці Беларусі) Лукашэнка спадзяецца напалохаць Захад, але там выдатна валодаюць інфармацыяй і разумеюць, што беларускі дыктатар блефуе.

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**

## Украіна будуе сваю амбасаду

*Беларусам даверылі толькі каналізацыю*

У мінулую пятніцу прэм'ер-міністр Украіны Валерый Пуставойценка, які знаходзіўся ў нашай краіне з 2-дзённым афіцыйным візітам, агледзеў будоўлю ўкраінскай амбасады ў Мінску.

Літаральна год таму ў падмурак будынка закладзеная памятная капсула. Урачыстую цырымонію з гэтай нагоды адправіў тагачасны ўкраінскі пасол Уладзімір Жаліба, які падкрэсліў, што ягоная краіна замацоўваецца ў Беларусі ўсур'ёз і надоўга. Украіна першай з замежных краінаў пачала ўзводзіць сваё дыпламатычнае прадстаўніцтва ў Мінску. Астатнія арандуюць ужо гатовыя памяшканні. Па суседстве ля ўкраінцаў размяшчаецца будынак расійскай амбасады (раней тут жыў камандуючы беларускай ваеннай акругі і першы міністр абароны суверэннай Беларусі Анатоль Кастэнка), а крыху далей — амерыканскае і нямецкае прадстаўніцтвы.

Праект будынка ўкраінскай амбасады распрацаваў наш архітэктар Лявонцій Зданевіч. Ён працуе ў арэндным прадпрыемстве «Белпраект» і абяцае, што новы будынак упрыгожыць гэты ўтульны квартал горада.

Да прыезду прэм'ер-міністра В.Пуставойценкі былі поўнасцю скончаны будаўніча-мантажныя работы. Асноўны 4-павярховы будынак для дыпламатычнага корпуса мае плошчу каля 4 тысячаў кв.метраў. Тут размяшчаюцца 32 службовыя пакоі, кабінет пасла і вялікі хол з каланамі — для афіцыйных і проста ўрачыстых прыёмаў. Пад зямлёй зробленыя гаражы для 12 аўтамабіляў. Значная частка галоўнага корпуса прызначаная для консульскай службы, якая будзе мець асобны ўваход з вуліцы Старавіленскай. Амбасада набыла ва ўласнасць трохпавярховы дом побач і надбудавала чацвёрты паверх: тут размесціцца гандлёва-эканамічная місія, астатнія тры паверхі разлічаныя на 12 кватэр для дыпламатаў. Пакуль што яны вымушаныя наймаць прыватныя кватэры па вельмі высокіх коштах (300—500 доляраў у месяц).

Украінскі пасол Анатоль Дронь распавёў прэм'ер-міністру Пуставойценку, што за арэнду 46 сотак зямлі амбасада штогод выплачвае ў беларускі бюджэт 23 тысячы доляраў. Гэта вельмі дорага, таму плануецца купіць гэты кавалак зямлі ва ўласнасць: заплаціў раз — маеш назаўсёды.

Украіна, паводле нашых законаў, можа купіць зямлю ў тым выпадку, калі прадасць адпаведны ўчастак у Кіеве. Але беларускія ўлады пакуль не просяць месца для будаўніцтва.

Сваю амбасаду ўкраінцы будуюць самі, у штаце будаўнікоў 80 чалавек. Беларусам даверылі толькі ўнутраныя санітэхнічныя работы ды мантаж цеплавых і каналізацыйных сетак. Украінцы вельмі любяць жывую прыроду. Кіраўніца будоўлі, заслужаны будаўнік Украіны Валянціна Кізіла распавяла, што на пляцоўцы захавалі клён, яблыню і іншыя дрэвы, хоць дзеля гэтага давялося нават перапланаваць цеплатрасу.

Генеральным падрадчыкам выступае канцэрн «Інкабуд» з Кіева. Гэта дасведчаны будаўнік: канцэрн ужо рэканструяваў украінскую амбасаду ў Маскве і нават расійскі Белы дом. Зладжана і рытмічна ідзе праца і ў Мінску. На будоўлі скарысталі ад беларускіх прадпрыемстваў толькі жалезабетон і цэглу. Усё астатняе (у тым ліку метал, граніт для абліцоўкі, ліфты, вітражы) паступае з Украіны, а аконныя рамы набылі ў Польшчы. Мэбля для офісаў і кватэраў таксама будзе ўкраінскай: краіна клапоціцца пра падтрымку сваіх вытворцаў. Інтэр'ер амбасады распрацоўваюць украінскія мастакі. У фае размесціцца 4-метровая свяцільня, якую вырабіць па спецыяльнай замове цярнопальскі завод «Ватра». Паводле плана, завершыцца будаўніцтва ўкраінскай амбасады ў траўні гэтага года.

**Алесь ДАШЧЫНСКІ**



*На здымку: комплекс украінскай амбасады. Будынак злева ўкраінцы купілі, а арыгінальны гмах побач будуецца «з нуля».*

## Дэпутаты не далі грошай лукамольцам

**Віцебскі гаркам БПСМ застаўся без фінансавання.**

Новаабраныя дэпутаты Віцебскага гарсавета на нядаўняй сесіі так і не змаглі прыняць рашэння: фінансаваць ці не з мясцовага бюджэту маладых прэзідэнцкіх патрыётаў. За фінансавую падтрымку БПСМ прагаласавала 16 дэпутатаў, супраць — 14, а для зацвярджэння пастановы неабходна як мінімум 19 галасоў. Па словах дэпутата Хрыстафора Жаляпава, дзяржава не павінна аплачваць са сваёй кішэні дзейнасць грамадскіх арганізацыяў, а іх у Віцебску зарэгістравана больш за 80. Жаляпаў лічыць, што менавіта такой логікай кіраваліся і ягоныя калегі, галасуючы супраць фінансавання лукамола.

Аднак кіраўнік Віцебскага гаркама БПСМ Леанід Орлік сказаў, што «нічога страшнага не адбылося». Зарплату вызваленыя супрацоўнікі гаркама атрымліваюць з цэнтральнага камітэта, а з гарадскога бюджэту аплачваюцца толькі камандзіровачныя, арэнда памяшкання, камунальныя паслугі і закупка канцылярскіх тавараў. Па словах Л.Орліка, рашэнне аб дзяржаўнай падтрымцы БПСМ прынята самім прэзідэнтам — і калі дэпутаты ў бліжэйшы час не вызначацца з аплатай гэтых выдаткаў, маладыя патрыёты «знойдуць выйсце».

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**

## Валютчыкам палёгка

**Прэзідэнт знізіў памеры штрафаў за незаконныя валютныя аперацыі. Міласэрнасць праявілася ў форме дэкрэта №1 ад 4 лютага.**

Ажыццяўленне валютных аперацыяў — скупка, продаж, абмен замежнай валюты, у тым ліку на беларускія рублі і іншую маёмасць, альбо выкарыстанне замежнай валюты без спецыяльнага дазволу будзе карацца цяпер штрафам ад 50 да 300 мінімальных заробкаў (раней было ад 100) ці адміністрацыйным арыштам.

Фармулёўка «прыставанне да грамадзянаў з мэтай куплі, продажу, абмену замежнай валюты», якая была ў леташнім аналагічным дэкрэце, зменена на «неаднаразовае прапанаванне», а штраф за такую правіннасць будзе пачынацца з 35 мінімальных заробкаў, а не з 70, як было раней.

**Алесь САДОЎСКІ**

# Крэдыты на будаўніцтва

**Зусім свежы ўказ прэзідэнта за № 52 прадугледжвае чарговыя грашовыя ўліванні ў жыллёвае будаўніцтва — за кошт крэдытаў Нацыянальнага банка.**

Нацыянальны банк павінен выдзеліць Беларусбанку да 23 трлн. рублёў на крэдыты грамадзянам, якія будуюць сабе жыллё ў складзе жыллёва-будаўнічых кааператываў, калектываў індывідуальных забудоўшчыкаў і ў парадку долевага ўдзелу ў жыллёвым будаўніцтве ў 1998-2000 гг. З гэтай сумы 5 трлн. рублёў прадугледжана на 1998 год.

Дзякуючы новаму ўказу кола прэтэндэнтаў на атрыманне крэдытаў пашырыцца. Магчымасць атрымаць крэдыты цяпер маюць і ўдзельнікі долевага будаўніцтва, якія маюць патрэбу ў паляпшэнні жыллёвых умоваў (раней на гэта маглі разлічваць толькі грамадзяне ў складзе ЖБК і калектываў індывідуальных забудоўшчыкаў). Спісы людзей, якія маюць патрэбу ў паляпшэнні жыллёвых умоваў, зацвярджаюцца аблвыканкамамі альбо Мінскім гарвыканкамам.

Павялічаны і максімальны тэрмін, на які Беларусбанк будзе выдаваць крэдыты. Згодна з указам, у банку магчыма будзе атрымаць крэдыт у памеры да 90% кошту будаўніцтва жылога памяшкання тыповых спажывецкіх якасцяў (з разліку 20 кв. метраў агульнай плошчы на аднаго члена сям'і) тэрмінам да 40 гадоў з выплатай 5% гадавых. Пагашэнне крэдыту пачынаецца з уводам дома ў эксплуатацыю. Адзін з новых пунктаў указа таксама прадугледжвае, што крэдыты цяпер будуць выдавацца пад заклад таго жылля, якое за гэтыя грошы будуецца.

Фактычна гэта крэдытаванне за кошт друкарскага станка. На думку спецыялістаў, трэба чакаць, што барацьба за крэдыты, якіх усё роўна на ўсіх не хопіць, разгорнецца з новымі сіламі, а інфляцыя атрымае дадатковы стымул для росту.

**Алесь САДОЎСКІ**



*Гэты новы дом у Віцебску пабудаваны з выкарыстаннем дзяржаўных крэдытаў. Але для большасці беларусаў сваё жыллё па-ранейшаму застаецца недасяжнай марай.*

# Сораса рэабілітавалі

*Але толькі часткова*

Гаспадарчы суд Мінскай вобласці прызнаў незаконнымі большасць штрафных санкцыяў, якія падатковыя органы выставілі Беларускаму фонду Сораса. Такое рашэнне прыняла пазаўчора суддзя Эла Ануфрыевіч, але на гэтым канфлікт паміж Джорджам Сорасам і беларускімі ўладамі яўна не вычарпаны.

Нагадаем, што Беларускі фонд Сораса (БФС) — некамерцыйная арганізацыя, якая на грошы амерыканскага мецэната Джорджа Сораса падтрымлівала беларускую навуку, культуру, адукацыю і СМІ. На гэтыя мэты, па звестках БФС, за чатыры гады было выдаткавана больш за 13 мільёнаў долараў, прычым дапамога аказвалася як незалежным, так і дзяржаўным арганізацыям. Аднак беларускія ўлады пачалі публічна абвінавачваць фонд у падрыўной дзейнасці, і нарэшце летась фонду выставілі астранамічны штраф на 3 мільёны долараў — нібыта за нясплату падаткаў. БФС адмовіўся плаціць гэтыя грошы, маёмасць фонду арыштавалі, рахункі зачынілі. Джордж Сорас, каментуючы гэтыя падзеі, заявіў, што больш не давярае беларускім уладам і ўсю дапамогу Беларусі будзе аказваць толькі праз няўрадавыя арганізацыі.

Тым часам БФС падаў у суд на падатковую інспекцыю. Справа з перапынкамі разглядалася некалькі месяцаў, і вось нарэшце рашэнне — штрафныя санкцыі да фонду ў памеры 74 мільярды рублёў прызнаны незаконнымі. Суд пацвердзіў прэтэнзіі падатковай інспекцыі толькі на суму, роўную 80 тысячам долараў. Аднак суддзя не задаволіла іск Інстытута адкрытага грамадства (Нью-Ёрк) аб вяртанні маёмасці, якая ў свой час перадавалася Беларускаму фонду Сораса.

Стрымана пракаментаваў рашэнне суддзі старшыня назіральнай рады БФС Сяргей Леўшуноў. Ён заявіў, што не сумнявайся ў незаконнасці штрафных санкцыяў. На думку Леўшунова, суддзя не паддалася ціску з боку дзяржаўных органаў і прыняла рашэнне «згодна з законам і здаровым сэнсам». Той факт, што фонду ўсё ж давядзецца выплаціць 80 тысяч долараў, Сяргей Леўшуноў назваў вынікам недасканаласці беларускіх законаў. *«Гэта цалкам супярэчыць міжнароднай практыцы, калі дабрачынныя арганізацыі прымушаюць плаціць тыя ж падаткі, як і камерцыйныя фірмы»*, — сказаў старшыня назіральнай рады БФС.

Між тым, нават, нягледзячы на станоўчы для БФС вынік судовага разбіральніцтва, Сяргей Леўшуноў песімістычна ацаніў шанцы на аднаўленне працы фонду ў Беларусі. *«Мы не бачым, каб выканаўчая ўлада змяніла свае адносіны да Фонду Сораса»*, — заявіў Сяргей Леўшуноў.

**Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ**

# «Чаўнакі» не давяраюць уладам

**Большасць беларускіх рынкаў спынілі забастоўкі. Але прадпрымальнікі з недаверам ставяцца да афіцыйных абяцанняў разабрацца з іх праблемамі.**

### Прызнанні і навіны

Як заявіў першы віцэ-прэм'ер Пётр Пракаповіч, урад адчувае, што праблему, звязаную з пытаннямі дэкларавання і сплаты падаходнага падатку з сукупнага гадавога даходу, яны «прапусцілі», і таму ёй вымушаны быў заняцца сам прэзідэнт. Па словах Пракаповіча, рыхтуецца праект дэкрэта прэзідэнта, які прыпыніць падаткаабкладанне сукупнага гадавога даходу. На працягу двух-трох месяцаў плануецца ўнесці змяненні ў заканадаўства. І канчаткова лёс дэкларавання будзе вырашаць Нацыянальны сход Рэспублікі Беларусь.

Магчыма, што дэкляраванне і дадатковыя падаткі ў гэтым годзе абмінуць беларусаў. Падставы для спадзяванняў даюць словы Пракаповіча аб тым, што ў бюджэце 1998 года паступленні ад дадатковых сум падаходнага падатку не закладаліся. Аднак невядома, наколькі можна давяраць гэтым словам — яны супярэчаць таму факту, што ўсе планы падатковай інспекцыі ўзгадняюцца з міністэрствам фінансаў — аўтарам бюджэту.

Віцэ-прэм'ер параіў тым, хто ўжо заплаціў падатак з сукупнага даходу, пачакаць тры месяцы — і падатковыя органы магчыма пералічаць грошы назад. На жаль, інфляцыя чакаць не будзе.

### Магілёў не супакойваецца

Магілёўскія прадпрымальнікі, нягледзячы на часовае вырашэнне пытання з падаткамі, не спынілі забастоўку. Акрамя падаткаў, яны маюць і іншыя, не менш сур'ёзныя прэтэнзіі да ўладаў.

У мінулую суботу раніцай на магілёўскім стадыёне «Спартак» адбыўся сход «чаўнакоў». Сабралася каля 1.500 прадпрымальнікаў і толькі 2 чалавекі прагаласавалі за спыненне забастоўкі. Астатнія выступілі за працяг акцыі, пакуль дзяржаўныя органы не створаць нармальны парадак сертыфікацыі якасці тавараў і іх гігіенічнай рэгістрацыі.

Раней гэтага фармальнасці можна было рэгуляваць на месцы, у Магілёве, а цяпер трэба везці тавары ажно ў Мінск. Да таго ж, гэты працэс вельмі нагадвае легалізаванае хабарніцтва ці рэкет — для праходжання рэгістрацыі і сертыфікацыі неабходна аддаць 3 экземпляры тавару, прычым гэтыя ўзоры не вяртаюцца — незалежна ад іх кошту, нават калі гэта 1000-доларавае футра.

А калі тавар не пройдзе рэгістрацыі і сертыфікацыі — штраф, і ўжо шмат хто з магілёўскіх прадпрымальнікаў быў вымушаны аддаць кантралёрам ад 10 да 20 млн. рублёў штрафу.

### Шэсце будзе

Прадпрымальнікі з іншых гарадоў Беларусі таксама не вельмі разлічваюць на добрыя намеры ўладаў. Шмат хто прытрымліваецца думкі, што забастоўку трэба было б працягваць да поўнай адмены (а не прыпынення) падаткаў з сукупнага гадавога даходу. І калі належнага рашэння ўрада не будзе, прадпрымальнікі не выключаюць, што з пачатку наступнага месяца давядзецца аднавіць страйк.

І, нарэшце, заяўка на правядзенне ў Мінску шэсця «Пахаванне вольнага прадпрымальніцтва» не адкліканая. І хутчэй за ўсё яно адбудзецца ў прызначаны тэрмін — 19 лютага.

**Алесь САДОЎСКІ**

# Бедныя бібліятэкі

**У шэрагу публічных бібліятэк Мінска і абласных цэнтраў пачалі дзейнічаць «карныя меры» супраць недысцыплінаваных чытачоў. Хто не вярнуў кнігу ў тэрмін — мусіць заплаціць пеню.**

Бібліятэкі атрымалі права самастойна ўстанаўліваць пеню, у Мінску, напрыклад, сёння дзейнічае тарыф — 1% мінімальнага заробку (2.500 рублёў) за кожны пратэрмінаваны дзень.

Заўважце: у бібліятэцы кожнага павінны пазнаёміць з новымі правіламі і прапанаваць чытачу распісацца ў гэтым. Толькі ў гэтым выпадку з вас змогуць спагнаць грошы. Некаторыя бібліятэкі таксама абмяжоўваюць тэрмін карыстання падручнікамі да 10 дзён, але гэта таксама павінна быць запісана ў правілах гэтай бібліятэкі. І яшчэ адна навіна — за асаблівa каштоўныя кнігі з чытача могуць патрабаваць заклад. Як гэта будзе выглядаць і колькі будуць браць, пакуль кепска ўяўляюць і самі бібліятэкары, бо няма выразных крытэрыяў вызначэння каштоўнасці кнігі.

Бібліятэкі невыпадкова пайшлі на ўсе гэтыя меры. Невяртанне кніг стала сапраўдным бедствам. Усё пачалося, кажуць бібліятэкары, калі адмянілі старую сістэму: раней за страчаную кнігу трэба было заплаціць у 10-разовым памеры, цяпер жа чытач павінен толькі вярнуць кнігу роўную па кошце. Але здараецца так, што кнігі ўсё роўна не вяртаюць. «Мы, вядома, можам падаваць на чытачоў і ў суд, але гэта толькі трата часу і грошай», — кажуць у міністэрстве культуры, у сістэме якога знаходзіцца большасць бібліятэк.

У Беларусі 4 тысячы 800 публічных бібліятэк. Сярэдні заробак бібліятэкара сёння — 1 млн. 300 тысяч рублёў. Бібліятэкам вельмі патрэбныя грошы — і на папаўненне фондаў, і на падтрыманне збораў у больш-менш прыстойным стане. Прыкладна 5 гадоў таму бібліятэкі краіны пачалі аказваць платныя паслугі (ксеракапіраванне, перазапіс аўдыёкасет, выдачу кніг з фонду чытальнай залы на дом і г.д.). Але гэта не ратуе. Бібліятэкі Мінска, напрыклад, у 1997 за платныя паслугі атрымалі 1,5 мільярда рублёў, але дзяржава забрала з гэтай сумы каля 70% падаткаў, бо разглядае такія грошы як «чысты даход» бібліятэк.

У выніку сярэдняя публічная бібліятэка набывае ўсяго каля 70 кніг у год — і гэта надзвычай мала, лічаць у міністэрстве культуры. Для параўнання: толькі ў Беларусі за год выдаецца больш як 4.000 назваў. Калі так будзе і далей, то «у бліжэйшы час бібліятэкі застануцца без кніг», лічыць намеснік начальніка ўпраўлення з міністэрства культуры Уладзімір Шышкін. Але як змяніць сітуацыю — спецыялісты не ведаюць.

**Аляксандр ВАСІЛЕЎСКІ**

## Хадзіце ў суд з Свабодным прафсаюзам

**Работніку цяжка змагацца з самавольствам чыноўнікаў, але эфектыўна дапамагчы можа прафсаюз.**

За два апошнія гады юрыстамі Гомельскага грамадска-прававога пункта, створанага пры абласной рэгіянальнай арганізацыі Свабоднага прафсаюза, удалося праз суд аднавіць на рабоце дзевяць незаконна звольненых работнікаў, адмяніць 14 неправамоцных дысцыплінарных спагнанняў, вярнуць амаль 150 мільёнаў рублёў, незаконна нявыплачаных работнікам. Цяпер пад наглядам юрыстаў судамі разглядаецца яшчэ 40 спраў.

Старшыня рэгіянальнай арганізацыі Свабодных прафсаюзаў Віктар Ялфімаў лічыць, што адукаваны юрыст і ў цяперашніх не самых прававых умовах можа шмат чаго зрабіць у абароне законных правоў працоўных. Праблема ў тым, што людзі самі не толькі не ведаюць сваіх правоў, але не жадаюць або баяцца іх адстойваць праз суд.

**Уладзімір ВАЛЕЎСКІ**

## Фермераў раскулачваць рана

**У Гомельскай вобласці налічваецца ўсяго 400 фермерскіх гаспадарак.**

Кожная фермерская гаспадарка ў сярэднім статыстычным вылічэнні мае менш за адну карову, толькі дзве свінні і некалькі птушак. У часы калектывізацыі падобныя гаспадаркі лічыліся бядняцкімі і не падлягалі раскулачванню.

Сённяшняя эканамічная палітыка дзяржавы прывяла да таго, што колькасць фермерскіх гаспадарак у вобласці летась зменшылася на 14.

**Уладзімір ВАЛЕЎСКІ**

# Новы перадзел Рэчы Паспалітай

У Польшчы неспакойна. У Польшчы вірууюць дыскусіі наконт будучага адміністрацыйнага падзелу Рэчы Паспалітай. 12 ваяводстваў і каля 300 паветаў павінны замяніць сённяшні падзел на 49 ваяводстваў.

Адзін з найбольш спрэчных пунктаў — тэрміны: урад збіраецца ўвесці новы адміністрацыйны падзел ужо з 1 студзеня 1999 года. Дэцэнтралізацыя ўлады — менавіта так тлумачыцца сутнасць рэформы. Ідэя новага адміністрацыйнага падзелу базуецца на прыкладзе трох еўрапейскіх дзяржаваў — Іспаніі, Францыі і Італіі. На самым нізе будуць стаяць гміны, над імі — паветы, яшчэ вышэй — ваяводствы. Прэм'ер-міністр Ежы Бузэк тлумачыць, што рэформа — гэта не проста змена межаў на адміністрацыйнай мапе Польшчы, а дэцэнтралізацыя дзяржавы і перадача шмат якіх функцыяў сённяшняга ўрада ў рукі мясцовага самакіравання.



*Такі адміністрацыйны падзел прапануе ўрад.*

### Аддаць уладу людзям

Большасць палякаў яшчэ не вызначылася наконт новага падзелу рэгіёнаў. У камуністычнай Польшчы мясцовае кіраванне, як і ніжэйшая палата парламента — Сейм, былі фікцыяй. На пачатку 70-х дзяржава таксама была падзеленая на 17 ваяводстваў і больш за 300 паветаў. Гэтая сістэма была вельмі хутка зменeная: у 1975 годзе тагачасны кіраўнік Польшчы Эдвард Герэк зліквідаваў паветы, утварыўшы 49 ваяводстваў. Мела гэта выключна палітычныя мэты — выйграць у канкурэнцыі з іншым камуністычным лідэрам.

Першы дэмакратычны ўрад Тадэвуша Мазавецкага ў 1989 годзе пачаў распрацоўваць канцэпцыю вяртання паветаў. У 1993 годзе ўрад Ханны Сухоцкай падрыхтаваў частку рэформы і апублікаваў мапу падзелу дзяржавы на 300 паветаў, але наступны ўрад кааліцыі *SLD-PSL* (посткамуністы і аграрыі) прыпыніў рэформу. У 1997 годзе ўрад Ежы Бузэка назваў рэформу сваім прыярытэтам. «Мы ішлі па ўладу, каб аддаць яе людзям», — сказаў у сваім выступе перад Сеймам польскі прэм'ер.

### Рэформа як яна ёсць

Кошт рэформы ацэньваецца ў 270 млн. злотых (каля 77 млн. долараў ЗША). Адразу пасля новага падзелу адміністрацыйных функцыяў у касы мясцовага самакіравання трапіць каля 40% усіх бюджэтных сродкаў краіны. Да гэтага мясцовыя ўлады атрымлівалі каля 20%, рэшта праходзіла праз цэнтр. У выпадку ўдалай рэформы ўлады спадзяюцца зэканоміць некалькі мільярдаў злотых. Паветы возьмуць на сябе большасць тых функцыяў, якія выконваюць сённяшнія ваяводствы. У адрозненне ад амерыканскіх штатаў ці нямецкіх ляндаў рэгіёны не будуць мець сваіх законаў, дарожных правілаў ці крымінальных кодэксаў. Каб меншыя адміністрацыйныя адзінкі не парушалі еднасці дзяржавы, будзе сачыць ваявода.

Урадавая кааліцыя чакае, што рэформа акупіцца на працягу двух гадоў і пачне прыносіць прыбытак. Нягледзячы на тое, што бюракратычны апарат павялічыцца на 10 тыс. чыноўнікаў, мяркуецца, што гэта не прывядзе да яшчэ большай бюракратычнай валакіты. Увесь сэнс у тым, што цяпер, каб вырашыць нейкае пытанне, не трэба будзе ехаць у вялікі горад, адстойваць чаргу да кабінетаў, дзе адзін чыноўнік займаецца тысячай справаў.

Калі змены адбудуцца паспяхова, то ўжо ў 2000 годзе пройдуць выбары ў органы кіравання паветаў і новых ваяводстваў. Кіраўнікоў паветаў і ваяводстваў не будуць прызначаць «вертыкальна», як гэта робіцца на Беларусі. Выбары ў мясцовае самакіраванне будуць вольнымі: менавіта самі жыхары будуць вырашаць, хто будзе кіраваць у іх рэгіёне. Паводле закона, новы кіраўнік павета ці ваяводства будзе мець больш улады і больш грошай, чым сёння. І — больш адказнасці перад выбаршчыкамі.

У распараджэнні мясцовых уладаў (на ўзроўні гмінаў і паветаў) будуць знаходзіцца практычна ўсе службы, якія фінансуюцца падаткаплацельшчыкамі: паліцыя, пажарныя каманды, хуткая медычная дапамога, аварыйныя службы і г.д. У Варшаве застануцца, натуральна, войска, цэнтральны крымінальны вышук, знешняя палітыка і нагляд за канстытуцыйнай законнасцю.

### Заклятыя ворагі пагадзіліся

На першы погляд, стаўленне розных палітычных партыяў да рэформы выклікае здзіўленне. Звычайная схема «урад — за, апазіцыя — супраць». Амаль усе ўплывовыя палітычныя групоўкі падтрымліваюць ідэю рэфармавання адміністрацыйнага падзелу і ўвядзення паветаў. Заклятыя супраціўнікі польскіх кансерватараў з «Салідарнасці» — посткамуністы з *SLD* — таксама выказваюцца за рэформу. Прычым кожны, канечне ж, прытрымліваецца сваіх інтарэсаў і вылічвае сваю выгаду.

Кансерватары спадзяюцца дэцэнтралізаваць уладу на месцах і такім чынам зрабіць для сябе лягчэйшы доступ на поле праціўніка, выйграць як мага больш выбараў у органы мясцовага самакіравання. Посткамуністы спадзяюцца зрабіць прыкладна тое ж самае — дзякуючы дэцэнтралізацыі і больш дакладнаму падзелу сфераў уплыву больш паспяхова тлумачыць людзям пра недасканаласць рэформаў у дзяржаве, некампетэнтнасць кансерватыўнага ўрада. Апошняя заявы посткамуністаў аб неабходнасці скарачэння тэрмінаў дзеяння Сейма і Сената ўжо сведчыць аб тым, што сённяшняя раскладка сілаў ім не толькі не падабаецца, больш таго, яна можа быць папраўленая на іх карысць менавіта пры стварэнні паветаў.

### Рэферэндум як паратунак

Найбольш страціць на рэформе колішні саюзнік посткамуністаў — аграрыі з *PSL*. Цяпер аграрыі перацягваюцца ў дробную сілу на палітычнай арэне, больш адыгрываючы ролю партыі дэкаратыўнай. Пройгрыш аграрыяў пачаўся на мінулых парламенцкіх выбарах, калі яны ледзьледзь перадолелі 7-працэнтны выбарчы парог. Каб адвесці бяду і даць сабе яшчэ троху часу, аграрыі патрабуюць правядзення ўсенароднага рэферэндуму па пытанні новага адміністрацыйнага падзелу. Але апытанні грамадскай думкі паказваюць, што рэферэндум выкажацца за рэформу.

Многія незалежныя наглядальнікі мяркуюць, што рэформа абавязкова будзе праведзеная. Не выключана, што Польшча ў сваім «апошнім рыўку» з камуністычнай мінуўшчыны не толькі назаўсёды пазбудзецца трагічнай спадчыны, але і значна паслабіць вяртанне да ўлады камуністаў у любым выглядзе ў будучыні.

**Янка ЧУРЫЛОВІЧ**

## Как белорусу попасть в тамбовский сельсовет?

**Председатель Центризбиркома РФ Александр Иванченко и председатель Центральной комиссии Беларуси по выборам и проведению референдумов Людмила Ермошина встретились во вторник в Москве.**

Они обсудили вопросы сотрудничества по углублению интеграции избирательных систем. На встрече речь шла также о координации деятельности избиркомов двух стран по обеспечению избирательных прав граждан. В договоре о Союзе России и Беларуси предусматривается, что гражданин любой из двух стран может участвовать в выборах в органы местного самоуправления России или Беларуси — по месту проживания. Руководители Центризбиркомов двух стран обсуждали механизм реализации этого положения договора.

## Политический центр – безопаснее

**22,6% жителей Украины готовы отдать свои голоса на мартовских парламентских выборах представителям политического центра, 20% — поддерживают левые партии и блоки, 11,4% — симпатизируют правым.**

Об этом свидетельствуют результаты опросов, обнародованные в понедельник на пресс-конференции в Киеве руководителем Киевского центра политических исследований и конфликтологии Михаилом Погребинским.

Больше всего голосов — 11,2% — получила компартия, 9,5% респондентов отдали предпочтение Народному Руху Украины. 46% избирателей пока не определились, за какую партию отдать голос.

Опросы проводились в ноябре-декабре 1997 года и январе 1998 года. Было опрошено более 10 тысяч респондентов — по 400 в каждой области, Крыму и городе Киеве.

М.Погребинский считает, что если Конституционный суд признает неконституционным положение закона о выборах о необходимости преодоления 4-процентного избирательного барьера для политических партий, в парламент пройдут 25-26 партий и большинство мандатов (113) получат центристы. В этом случае левым достанутся 81 мандат, правым — 31. По оценке политолога, если 4%-ый барьер будет сохранен, возможны два сценария: либо проходят 10 партий (центр — 110, левые — 85, правые — 30), либо 7 партий (центр — 86, левые —103, правые — 36).

Парламентские выборы на Украине состоятся 29 марта. По закону Верховный Совет страны избирается по смешанной системе: 225 депутатов — по одномандатным округам, другая половина законодательного органа — по партийным спискам.

## Москвичи о «деле Шеремета»

**Четверть москвичей считают, что Шеремет и Завадский белорусских законов не нарушали.**

Более четверти москвичей — 26% — не удовлетворены решением суда по делу сотрудников ОРТ Павла Шеремета и Дмитрия Завадского, поскольку считают их ни в чем не виноватыми. Это следует из результатов опроса, проведенного Всероссийским центром изучения общественного мнения. Опрос проводился в пятницу, 6 февраля, при участии 850 взрослых жителей столицы РФ.

В конце января Ошмянский народный суд приговорил П.Шеремета и Д.Завадского к 2 и 1,5 годам лишения свободы соответственно с испытательным сроком на один год. Они обвинялись в незаконном пересечении границы.

Еще 14% респондентов также не удовлетворены приговором, посчитав его слишком суровым наказанием. Считают, что суд принял справедливое решение, поскольку П.Шеремет и Д.Завадский нарушили закон, 9% опрошенных. При этом еще 4% убеждены, что они нарушили закон и должны быть наказаны более сурово.

Но самое любопытное в том, что наибольшее количество участвовавших в опросе москвичей — 28% — вообще ничего не знают об этом процессе, серьезное значение которому придавали не только российские и белорусские СМИ, но даже президенты двух государств. Затруднились ответить на поставленный вопрос еще 19% респондентов. Последних в известном смысле можно причислить и к тем, кто не знает о процессе.

*Интерфакс*

# С иммигрантами разберутся прямо на границе

**В Австрии вступил в силу новый закон о предоставлении политического убежища. Этот закон значительно осложнит жизнь тем, кто хочет переселиться в Австрию, скрываясь от преследований по политическим мотивам.**

Новый закон предусматривает, что ходатайство иностранца о предоставлении политического убежища будет рассматриваться еще на границе, для чего в пограничных зонах созданы специальные пункты для беженцев. Аналогичные представительства иммиграционных властей и МВД созданы и в Венском международном аэропорту. Ранее иностранец, подав на границе ходатайства и заполнив соответствующие документы, мог въехать на территорию Австрии и уже там ждать решения иммиграционных властей. Теперь он будет дожидаться решения своего вопроса в специальном пункте. Ответ ему дадут не позднее чем через двое суток с момента подачи ходатайства.

Кроме того, в течение нескольких последних лет Австрия подписала со многими странами протоколы о том, что авиабилеты за рубежом на рейсы в Вену будут выдаваться лишь тем лицам, кто располагает австрийской визой и всеми другими необходимыми документами.

По данным МВД Австрии, в прошлом году в иммиграционные службы поступило около 10.000 ходатайств о предоставлении политического убежища, однако лишь 8% из них были удовлетворены. Все получившие отказ иммигранты отправлены на родину или в третьи страны. Основное число беженцев прибыло из Ирака — свыше тысячи человек, далее следуют граждане бывшей Югославии, Афганистана и Турции.

Хотя закон только начал действовать, его уже очень сильно ругают. Многие считают, что иммиграционным службам будет чрезвычайно трудно без личного контакта с иммигрантом детально рассмотреть прошение и принять правильное решение. По мнению некоторых экспертов, предпочтительными шансами будет обладать тот беженец, который подаст прошение непосредственно в венское управление.

Таким образом, многие иностранцы, получившие отказ в предоставлении политического убежища на границе, будут искать возможности перебраться на территорию Австрии нелегальным путем, чтобы обратиться в соответствующие инстанции лично. Эксперты также обращают внимание на тот факт, что с учетом экономической ситуации государство будет вынуждено значительно сократить пособия для политических беженцев.

**Григорий ПЕТРОВ**

## В университет – без экзамена

**Латвия готовит радикальную реформу образования. К 2000 году выпускные экзамены в средней школе по всем предметам будут засчитываться как вступительные в высшие учебные заведения.**

По сообщению Центра образования и экзаменации, в этом году внесены изменения в порядок проведения выпускных экзаменов в средней школе. Как и раньше, их будет пять, в том числе два обязательных — математика и латышский язык и литература (устно или сочинение — в латышских школах). Три экзамена ученики самостоятельно выбирают из любых предметов средней школы, один из них должен быть профильным, т.е. углубленным.

Нововведение — централизованный экзамен. То есть содержание, форма и критерии оценки ученических работ будут организованы в едином порядке для всех школ. В этом году централизованно будут проходить экзамены по английскому, немецкому и французскому языкам; экспериментально — по математике и русскому языку как иностранному. Оценивать письменные экзаменационные работы будут специалисты Национального центра образования в сотрудничестве с учителями.

Но даже и в оценке «обычных» экзаменов латвийское министерство образования стремится к большей объективности. Обязательным в оценке устных ответов будет мнение учителя другой школы. Успешно сдавшие экзамен получат сертификат, дающий право поступать в вуз без экзамена.

**Ольга ЧАЙКА**

## Дабрачынны фонд перамог

**Гомельскі абласны дабрачынны фонд «Дапамога дзецям Чарнобыля» выйграў судовы працэс супраць аблвыканкама.**

Фонд звярнуўся ў суд, каб прызнаць несапраўдным распараджэнне аблвыканкама «Аб прыпыненні дзейнасці фонду ў частцы накіравання дзяцей на аздараўленне». Суд устанавіў, што аблвыканкам не мае паўнамоцтваў прыпыняць дзейнасць якой бы там ні было грамадскай арганізацыі.

Прычынай для прыняцця згаданага распараджэння аблвыканкама паслужыла крытычная сітуацыя, якая склалася ў пачатку восені мінулага года. Тады вялікая група гомельскіх дзяцей — 652 чалавекі, — якія знаходзіліся на адпачынку ў Італіі па лініі фонду і італьянскай Нацыянальнай асацыяцыі сацыяльнай дапамогі, правялі там больш за месяц звыш належнага тэрміну з прычыны няўзгодненасці ў дзеяннях арганізатараў аздараўленчай кампаніі.

Каб вярнуць дзяцей дадому, улады выдзелілі з абласнога бюджэту 2 мільярды 800 мільёнаў рублёў на аплату авіярэйсаў. Да гэтага часу застаецца незразумелым, хто ж кампенсуе абласному бюджэту гэтыя расходы.

*БелаПАН*

## Беларусь – эпіцэнтр эпідэміі СНІДу

**Беларусь займае трэцяе месца сярод краінаў СНД і Балтыі па колькасці ВІЧ-інфіцыраваных.**

На пачатак 1988 года ў Беларусі былі афіцыйна зарэгістраваныя 1.787 ВІЧ-інфіцыраваных. На Украіне, якая займае першую пазіцыю ў спісе, на канец мінулага года было 26 тысяч носьбітаў інфекцыі. На другім месцы Расія — 6.944 выпадкі. Аднак прапарцыйна да колькасці насельніцтва паказчык у Беларусі самы высокі — 1,7 носьбітаў віруса на 10.000 чалавек. На Украіне і ў Расіі гэты паказчык складае каля 0,5. У Туркменістане ж, па афіцыйных дадзеных, зарэгістраваны толькі адзін вірусаносьбіт, але такая статыстыка не заслугоўвае даверу.

Гэтыя звесткі журналістам паведамілі на спецыяльным семінары, які праходзіў днямі ў Мінску. Семінар арганізаваны Дзіцячым фондам ААН (ЮНІСЕФ), Беларускім цэнтрам прафілактыкі СНІДу і мінскім прадстаўніцтвам амерыканскага Савета па міжнародных даследаваннях і абменах *IREX*.

*БелаПАН*

## ААН у дапамогу дзецям Беларусі

**Дзіцячы фонд ААН (ЮНІСЕФ) выдзяляе Беларусі 1 мільён 75 тысячаў долараў ЗША на падтрымку праектаў і праграмаў па паляпшэнні становішча жанчын і дзяцей.**

На чарговай сесіі Выканаўчага савета ЮНІСЕФ, якая завяршыла працу ў Нью-Йорку, выказвалася асаблівая заклапочанасць лёсам паўмільёна дзяцей–ахвяраў Чарнобыля, якія жывуць на забруджаных тэрыторыях, а таксама зніжэннем нараджальнасці, ростам дзіцячай смяротнасці і захворваемасці ў нашай краіне.

*БелаПАН*

## Каб было і цёпла, і чыста

**Уладам Лельчыцкага раёна Гомельскай вобласці паставілі задачу — знізіць сёлета спажыванне энергіі на 10 працэнтаў.**

Лельчыцкі раён выбраны для эксперыменту па рэспубліканскай праграме энергазберажэння. У межах гэтай праграмы ў Гомелі ўжо наладжаны выпуск спецыяльных аконных рамаў, а ў Мазыры і Лельчыцах — катлоў, якія працуюць на драўляных адходах вытворчасці. Такія катлы паставяць ва ўсіх кацельнях раёна. Такім чынам зборающа скарацца спажыванне расійскага газу.

Эксперыментальная праграма, па задумцы аўтараў, павінна прывесці і да паляпшэння экалагічнай сітуацыі, бо тое, што раней палілі на сметніках, цяпер будуць паліць у катлах.

**Уладзімір ВАЛЕЎСКІ**



*Гэтая пара лебедзяў засталася зімаваць на Нёмане непадалёк Стоўбцаў. Птушкам няма чаго баяцца: зіма цёплая, а калі мароз і прыцісне, то хуткая рэчка не замярзае.*

## Сюрпрызы надвор'я

У ноч на 8 лютага на тэрыторыі нашай краіны сіноптыкі назіралі анамальныя тэмпературныя кантрасты. Вельмі холадна (да 19—24 градусаў марозу) было ў Магілёўскай і на ўсходзе Віцебскай абласцей. Тут кіраваў надвор'ем халодны антыцыклон, які трапіў сюды з поўначы еўрапейскай Расіі. У той жа час Брэсцкая і Гродзенская вобласці знаходзіліся ў зоне цёплага атмасфернага фронта, і тут было ўсяго да 3 градусаў марозу. З панядзелка ў Беларусі рэзка і прыкметна пацяплела, бо зноў задыхала Атлантыка.

У бліжэйшыя суткі захаваецца цёплае надвор'е. Ноччу — ад чатырох цяпла да аднаго градуса марозу, днём — 1—6 градусаў вышэй нуля. Месцамі невялікія ападкі і туман, вецер заходні і ўмераны. Сёння ў Мінску 3—5 градусаў цяпла. 12 і 13 лютага ў Беларусі надвор'е прыкметна не памяняецца, а вось у выхадныя пахаладае на 3—4 градусы.

**Вера ЧЫЖЫК,**
*інжынер-сіноптык Белгідраметцэнтра*

## Тры студэнты і адзін пенсіянер на бляшанку вітамінаў

**Прэм'ер-міністр Рэспублікі Беларусь С.Лінг падпісаў чарговую пастанову Саўміна «Аб памерах дапамог і даплат насельніцтву, пацярпеламу ад катастрофы на ЧАЭС».**

З першага студзеня 1998 года памеры «чарнобыльскіх» павысіліся і складаюць цяпер ажно 27.900 рублёў у месяц для тых, хто працуе ў зоне з перыядычным радыяцыйным кантролем. Для студэнтаў гэтая сума трохі меншая — 26.200 рублёў, а для пенсіянераў — 23.000 рублёў.

Цяпер тры гомельскія студэнты і адзін пенсіянер, скінуўшыся, запраста могуць купіць сабе бляшанчку папулярнага полівітаміннага комплексу «Тры-ві плюс». Медыкі кажуць, што ён добра дапамагае пры малых дозах радыяцыі, бо бароніць клетачныя мембраны.

Праўда, узнікае праблема: бляшанкі хапае на месяц толькі для аднаго чалавека. Нават калі студэнты адкінуць пенсіянера (сваё, маўляў, аджыў), усё роўна застаецца пытанне сур'ёзнага маральнага выбару: чые клетачныя мембраны патрабуюць абароны цяпер, а чые могуць пачакаць да новай пастановы Саўміна.

**Уладзімір ВАЛЕЎСКІ**

*Алімпіяда*

# Наступны бой – з Канадай

На Алімпійскіх спаборніцтвах хакеістаў у Нагана зборная Беларусі эфектна згуляла апошні матч папярэдняга турніру з камандай гаспадароў Алімпіяды — японцамі.

Нягледзячы на тое, што незалежна ад вынікаў гульні беларусы ўжо забяспечылі сабе выхад у наступны этап, нашыя хакеісты правялі і гэты матч бадзёра, энергічна, з вялікай пазіцыйнай перавагай. І толькі майстэрства галкіпера японцаў Імао (дарэчы, ён канадзец японскага паходжання і толькі нядаўна стаў грамадзянінам сваёй гістарычнай радзімы) не дазволіла нашым хлопцам дасягнуць трэцяй запар перамогі. Канчатковы вынік — 2:2. Шайбу ў беларусаў закінулі Вадзім Бекбулатаў і Алег Раманаў.

Такім чынам, зборная Беларусі заняла першае месца ў сваёй групе і на другім этапе спаборніцтваў будзе гуляць з грандамі сусветнага хакею камандамі Канады (13 лютага ў 11:45, час беларускі), ЗША (14 лютага, 7:45) і Швецыі (16 лютага, 11:45). У другой папярэдняй групе перамаглі хакеісты Казахстана, якія будуць спрачацца са зборнымі Расіі, Чэхіі і Фінляндыі.



*На здымку: нападаючы Аляксандр Гальчанюк быў адным з лепшых у матчы Беларусь — Германія (лік — 8:2), закінуўшы шайбу і зрабіўшы выніковую перадачу.*

У лыжнай гонцы на 5 км. класічным стылем перамагла славутая расіянка Ларыса Лазуціна. Лепшай з беларусак была Алена Сінькевіч — 23-е месца. Астатнія нашыя дзяўчаты размясціліся ў дыяпазоне з 48 па 63 месцы.

**Сямён ПЛОЦ**

## Рыхтуемся ў Гімалаі

**У спорткомплексе «Раўбічы» пад Мінскам прайшлі зборы кандыдатаў на ўдзел у першай нацыянальнай экспедыцыі на самую высокую вяршыню планеты — гару Джамалунгма ў Гімалаях.**

У зборах удзельнічалі каля трыццаці мацнейшых альпіністаў Беларусі. Спартсмены беглі 20-кіламетровы крос, здалі шэраг тэстаў, прайшлі дакладнае медычнае абследаванне. Як адзначылі старшыня Беларускай федэрацыі альпінізму Аляксандр Гадлеўскі і галоўны трэнер каманды Яўген Ногатаў, пераважная большасць удзельнікаў гэтых першых збораў праявілі нядрэнную падрыхтоўку, прычым незалежна ад узросту. Лепшы вынік у кросе паказаў саракагадовы Аляксандр Шынкарэнка з Барысава, на ягоным альпінісцкім рахунку ўжо ёсць адзін васьмітысячнік — гімалайская гара Дхаўлагіры. Паспяхова вытрымалі выпрабаванне і іншыя ветэраны — мінчанін Валерый Маісеенка, Алег Салавей з Гомеля.

Па выніках папярэдніх выпрабаванняў і медычных паказанняў вызначаны склад удзельнікаў чарговых збораў, якія пройдуць у першай палове сакавіка на Каўказе. Альпіністы здзейсняць узыходжанні на Эльбрус (5.642 м) і Курмычы (4.312 м), а таксама шэраг трэніровачных пад'ёмаў, правядуць лядовыя заняткі, здадуць тэхнічныя нарматывы.

*БелаПАН*

## Міліцыя выратавала злодзея

**Беспрацоўны 30-гадовы жыхар Бабруйска спрабаваў абрабаваць мясцовы дзіцячы садок № 172.**

Ён палез у садок праз акно і вельмі няўдала: напароўся на кавалкі ім самім разбітага шкла, моцна парэзаўся і страціў прытомнасць. Але яму пашанцавала: спрацавала сігналізацыя, прыехала міліцыя і адвезла злодзея ў бальніцу. Медыкі сведчаць, што калі б выратавальнікі прыехалі на паўгадзіны пазней — не было б ужо каго ратаваць. Аднак пасля выздараўлення гэтага пацыента чакае лава падсудных.

**Іван ЗАСАДА**

## Цэйлонец замерз у лесе

**12 грамадзянаў Шры-Ланкі затрыманыя ўкраінскімі пагранічнікамі на мяжы Гомельскай і Чарнігаўскай абласцей.**

Мігранты нелегальна прыбылі з Масквы ў Беларусь і мелі намер ноччу перайсці на Украіну. Беларускія памежнікі не заўважылі азіятаў, а ўкраінцы аказаліся больш пільнымі і затрымалі няпрошаных гасцей.

Аднак высветлілася, што напачатку ў групе мігрантаў было 13 чалавек: знікненне аднаго з іх падчас пераходу мяжы ніхто не заўважыў. Пагранічнікам удалося знайсці яго труп у лесе: мяркуюць, што ён замерз.

*БелаПАН*



© НАВІНЫ. Спасылка на газету НАВІНЫ абавязковая. Падпісны індэкс 63312 E-mail: edit@svaboda.minsk.by Пасведчанне аб рэгістрацыі № 996. Юрыдычны адрас рэдакцыі: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173.
Надрукавана на паліграфічнай фабрыцы «Чырвоная зорка» ВПП імя Я.Коласа (220073 г.Мінск, 1-шы Загарадны завулак, 3) Заказ 1150 Нумар падпісаны ў друк 10.02.98 (15:00) Наклад — 12.790